## Шаноўныя падпісчыкі, паважаныя чытачы!

Мы высока цэнім вашу ўвагу да газеты і шчыра дзякуем усіх, хто выпісваў "Беларускі Усход", чытаў нас, пісаў нам, карацей — ня быў абыякавым да нашай працы. Мы працуем дзеля Вас і будучыні і нам важныя Вашы меркаванні і заўвагі. Мы незалежныя ад дзяржавы, партый і замежжа. Мы залежныя толькі ад Вас, падпісчыкаў. Бо газета існуе толькі на Вашыя грошы. Газету робяць выключна энтузіясты, бо мы не атрымліваем пакуль ні зарплаты, ні ганарараў. Тых грошай, што Вы плоціце за газету, хапае толькі на аплату паслуг друкарні, паперу і паслугі пошты за падпіску і дастаўку газеты Вам, падпісчыкам. Дзяржаўныя газеты існуюць на грошы падаткаплацельшчыкаў (ім грошы дае дзяржава з бюджэту, а бюджэт жа, вы ведаеце, бярэцца ў падаткаплацельшчыкаў). Так званыя "незалежныя" газеты існуюць на "падкормкі" з Захаду і Усходу. Мы — адзіная ў Беларусі газета, якая жыве і мацнее толькі дзякуючы Вам, дарагія падпісчыкі.

Таму мы і хочам дагадзіць толькі Вам, а не Уладам, Захаду ці Усходу. А каб лепш Вам дагадзіць, нам трэба ведаць, чаго вы хочаце. І сёння рэдакцыя прапануе Вашай увазе анкету "Беларускага Усходу". Будзем шчыра ўдзячныя кожнаму, хто запоўніць яе і дашле на адрас: **213670, вёска Маркаўка, Хоцімскага раёна, Магілёўскай вобласці, рэдакцыі газеты "Беларускі Усход".**

**Рэдакцыя.**

### Анкета газеты "Беларускі Ўсход"

**ВАШ УЗРОСТ:**
да 18
ад 18 да 25
ад 25 да 40
ад 40 да 55
старэй 55

**АДУКАЦЫЯ:**
няпоўная сярэдняя
сярэдняя агульная
сярэдняя спецыяльная
няпоўная вышэйшая
вышэйшая
Спецыяльнасць __________
Пасада __________

**САЦЫЯЛЬНАЯ ГРУПА:**
беспрацоўны
студэнт(ка)
калгаснік(ца)
рабочы(ая) саўгаса
рабочы(ая) прадпрыемства
прыватны(ая) прадпрымальнік(ца)
навуковец(ўца)
службовец(оўца)
на пенсіі

**Як даўно чытаеце "Беларускі Ўсход":**
першы месяц
паўгода
год
паўтара года
сачу за газетай з пачатку яе выдання

**Ацаніце змест і знешні выгляд газеты за апошнія паўтара гады:**
стаў лепшым
пагоршыўся
застаўся на адным узроўні
іншыя вашы ацэнкі

**Наколькі "Беларускі Ўсход" задавальняе вашы чаканні:**
цалкам задавальняе ў інфармацыйным плане
часткова задавальняе ў інфармацыйным плане
цалкам не задавальняе
цалкам задавальняе ў палітычным плане
часткова задавальняе ў палітычным плане
цалкам не задавальняе ў палітычным плане

**На якія тэмы вам найбольш цікава чытаць?**
(пазначце падрабязна ці па рубрыках)

**Якія публікацыі Вы не любіце ці не чытаеце?**
(пазначце, калі ласка, чаму)

**Колькі чалавек у Вашай сям'і і з Вашых знаёмых чытае кожную атрыманую вамі газету:**
адзін, 2-3, 4 і болей

**Якія тэмы, на Ваш погляд, трэба было б асвятляць больш шырока?**

**Якія новыя тэмы і рубрыкі Вы хацелі б пабачыць у нашай газеце сёлета?**

**Шчыра дзякуем Вас за анкету.**

**Заўвага:** адказваючы на пытанні ў анкеце пастаўце крыжыкі або галачкі. Напрыклад, у пытанні "Ваш, узрост", калі вам да 18 год, ставіце перад лічбай + V.



*Мсціслаўцы з РайПО.* **Фота Валерыя БЫСАВА.**

## НАДВОР'Е 11 СТУДЗЕНЯ

***(Якім яно было ў вёсцы Маркаўка ў гэты дзень за апошнія 35 год)***

**1965**
Раніцай мароз 24 градусы. Дзень сонечны, не густая пераменная воблачнасць.

**1970**
Марозны сонечны дзень. "Калючы" паўночны вецер.

**1975**
Ноччу мокры снег, мяцеліца. Пад раніцу падмарозіла. У 8 гадзін было 1 градус марозу, чыстае неба, умераны паўночны вецер.

**1980**
Раніцай 21 градус марозу, дрэвы ў інеі. Пахмурна. У другой палове дня сонечна.

**1985**
Раніцай 25 градусаў марозу, днём 17. Дрэвы ў інеі. Пахмурна. Пад вечар з'явілася сонейка. Мароз мацнее.

**1990**
Неба зацягнута воблачнасцю, моцны заходні вецер, ідзе снег, перамятае. Тэмпература каля 0 градусаў.

**1995**
Два градусы марозу, слабы снегапад.

**2000**
Пахмурна. Раніцай каля 1 градуса марозу, днём каля 1 градуса цяпла. Вецер умераны, паўднёва-заходні.

А цяпер параўнайце з сённяшнім надвор'ем.

Трэба адзначыць, што за апошнія 35 год моцныя маразы 11 студзеня, ад 24 да 32 градусаў, былі сем разоў. Гэта у 1965, 1967, 1968, 1969, 1976, 1985 і 1987 гадах. 30 градусаў было ў 1967, 32 — у 1969 гадах. 27 градусаў ніжэй нуля было ў 1987 годзе. А 24-25 градусаў мароз дасягаў у 1965, 1968, 1976 і 1985 гадах.

У межах 15-20 градусаў маразы былі ў 1980, 1981 і 1999 гадах.

Сонечнае надвор'е 11 студзеня было толькі 6 разоў за 35 гадоў. Гэта ў 1970, 1974, 1981, 1987, 1997 і 1999 гадах.

Снегапады і мяцеліцы лютавалі ў 1966, 1973, 1975, 1977, 1978, 1982, 1990, 1995 і 1998 гадах.

Дажджы ішлі ў гэты дзень у 1979, 1991, 1993 і 1998 гадах. Ртутны слупок у тэрмометрах падымаўся вышэй нуля 11 студзеня у 1979, 1983, 1989, 1991, 1993, 1998 і 2000 гадах.

Параўнайце з сённяшняй тэмпературай.

Дадзеныя звесткі аб надвор'і, ўзятыя з уласных назіранняў галоўнага рэдактара газеты "Беларускі Ўсход", які вядзе дзённік надвор'я з 1964 года.

Калі хто з чытачоў газеты вядзе назіранні за надвор'ем, рэдакцыя просіць даслаць звесткі аб надвор'і за любыя гады ў дні выхаду "Беларускага Ўсходу". Напрыклад 1, 8, 15, 22 лютата і г.д.

**Рэдакцыя.**

## Куток гаспадыні

### Салат из квашеной капусты

Квашеную капусту смешать с сахаром и растительным маслом. Можно прибавить свежие или моченые яблоки, нарезанные ломтиками, салатный сельдерей, бруснику свежую или моченую.

Подают этот салат к сосискам, сарделькам, жареной свинине, отварной домашней птице.

*На 500 г квашеной шинкованной капусты — 1 ст. ложку растительного масла, 1/2 ст. ложки сахару.*

### Салат мясной

Мясо вареное или жареное, очищенный вареный картофель и огурцы нарезать ломтиками, сложить в миску, добавить соус, майонез, соль и уксус, затем все это перемешать, сложить в салатник в виде горки и украсить листиками салата, нарезанными огурцами и кусочками мяса.

*На 200 г мяса — 4-5 картофелин, 2 огурца, 100 г зеленого салата, 1/2 стакана соуса, майонез.*

### Возьмите на заметку

Если капуста перекисла — промойте ее перед употреблением теплой кипяченой водой и слегка отожмите. Прокисшую чуть-чуть — промойте в холодной воде.

## Разумнае харчаванне дарує радасць

**Кітайскія медыкі ўпэўнены ў тым, што ўнутраная і знешняя гармонія — гэта ў першую чаргу пытанне збалансаванага харчавання.**

### Горкае — гэта немалаважна

Многія прадукты харчавання ўтрымліваюць горкія рэчывы, якія аказваюць мачагоннае дзеянне. Гэтыя ўласцівасці асобных прадуктаў можна выкарыстоўваць для таго, каб ліквідаваць назапашанне вадкасці ў нашым арганізме. Старайцеся як мага часцей запраўляць супы такімі спецыямі, як маяруўшка, чабор, размарын. Свежыя лістовыя салаты, напрыклад, цыкорый або дзьмухавец, аказваюць заспакаяльнае дзеянне пры стрэсавых сітуацыях, ярка выяўленай нервовасці і хранічнай бяссонніцы. Гэтыя расліны значна паляпшаюць дрэннае самаадчуванне. Але трэба быць асцярожнымі: не ўсё, што мае горкі смак, карысна для здароўя. Так, празмернае захапленне чорным чаем або кавай значна шкодзіць скуры. Яна становіцца сухой, схільнай да заўчаснага ўтварэння маршчын.

### Салодкае дае энергію

Але сапраўдным пастаўшчыком энергіі лічыцца толькі тая ежа, якая ўтрымлівае натуральную фруктозу: клубніцы, яблыкі, бананы, маліна, вінаград, грушы, акрамя таго — арэхі, інжыр, фінікі, разынкі, каштаны. Сярод агародніны — морква, бульба, гарбуз... Зусім іншая справа з разнастайнымі кандытарскімі вырабамі, напрыклад, шакаладам, цукеркамі, пірожнымі, пячэннем. Цукар, які ў іх утрымліваецца, у выніку прамысловай перапрацоўкі губляе ўсе свае энергетычныя ўласцівасці.

### Вострая ежа дэзінфіцыруе

Калі вы адчуваеце дрыжыкі, калі ў вас халодныя ногі ці вы адчуваеце рэзкую страту сіл, хутчэй за ўсё вы падвергліся так званай энергетычнай блакадзе. Страчаныя сілы можна папоўніць з дапамогай вострых страў ці адпаведных прыпраў. З гэтай задачай выдатна справяцца чорны перац, мускатны арэх, гваздзіка, хрэн, цыбуля і часнок. Акрамя таго вострая ежа стымулюе актыўнасць. Таму часцей ужывайце стравы з перцам. Падарожнічаючы па якой-небудзь далёкай краіне, не забывайцеся пра тое, што вострая ежа дэзінфіцыруе кішэчнік.

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.
**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.
**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара — 22-9-89.
**Рэгістрацыйны N141.**
Падпісны індэкс — 64098.
Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.
За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.
Газета падпісана да друку у 16 гадзін 10 студзеня 2001 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.
Наклад 3775 ас. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 2.
**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**